Беларуская

# КРЫНІЦА

Палітычная, грамадзкая і літаратурная газэта

Штомесячнае выданьне | Выходзіць з 8 (21) кастрычніка 1917 г. | Аднаўлена ў 1991 г. | № 3(771). ТРАВЕНЬ 1991 Г. | Кошт 60 кап.

Уладзімер ЖЫЛКА

## *Сёмуха*

*Начыста зьмецены і вуліцы й двары,*
*Ля ганка і варот вясёлыя бярозкі —*
*Сягоньня Сёмуха, сягоньня сьвята вёскі,*
*І весялейшае ня знойдзецца пары.*

*Пагодны, ясны дзень. У полі і ў бары*
*Паветра хмельны пах, сьмяюцца сонца коскі,*
*А ў хаце бел абрус, падходны блін —*
*дар боскі,*

*І шчасьцем сьвецяцца мужычыя твары.*

*І веру радасна я болей, чым калі,*
*У вялікі лёс і шлях радзімае зямлі:*
*Абуджаны народ быліц даўнае сказ,—*

*Узрушыць, як адзін, пры сьвеце бліскавіцы,*
*Прыйдзі хутчэй! Я жду цябе, жаданы час.*
*Дай думам сёмушным і казкам дай*
*зьдзяйсьніцца.*

# АБУДЖЭНЬНЕ

Па шырокіх менскіх вуліцах, здаецца, плыла людзкая рака. Ішлі пажылыя людзі, рашуча крочылі маладыя, дужыя рабочыя хлопцы, стараліся не адставаць ад іх жанчыны. Не відаць было блішчастых медных труб, якія вывяргалі б са сваіх раструбаў бадзёрыя мелодыі ўрачыстых маршаў, ад якіх, бывала, аж калаціліся шыбы ў вокнах дамоў. Не відаць было і партрэтаў «вождей», транспарантаў са словамі «слава» і «да здравствует», не луналі над галовамі чырвоныя сьцягі. Тут не было гэтак звыклай атрыбутыкі дэманстрацый у дні бальшавіцкіх першамайскіх і вялікакастрычніцкіх сьвятаў. Ніхто не крычаў па камандзе «ура!».

Людзі ішлі моўчкі. Аблічны ў адных былі заклапочаныя, магчыма, турбавала іх няпэўнасьць у заўтрашнім дні, чаканьне, якія неспадзяванкі прынясе ён. Вядома, несуцешныя неспадзяванкі. У іншых жа позіркі сьвяціліся рашучасьцю і ўпэўненасьцю ў сваёй сіле і чалавечай годнасьці. Людзі ішлі ад станкоў, з фабрык і заводаў. Ішоў рабочы клас. Той рабочы клас, які партбюракраты расхвальвалі на ўсе лады і адначасна выціскалі з яго ўсё, што маглі. Слоў для пахвальбы яны не шкадавалі: ён і «перадавы», і «яго вялікасьць», і «аддааны справе», і сама партыя, гэта ня што іншае, як партыя «рабочага класа». Замоўчвалі толькі тое, што атрымлівае ён за сваю мускульную працу самую мізэрную ў сьвеце аплату, што жыве ў пячорных ўмовах. Яшчэ нядаўна партбюракраты розных масьцяў страшылі ўсялякіх там нефармалаў: вось пачакайце, выйдуць рабочыя, яны пакажуць вам, дзе ракі зімуюць...

І яны выйшлі. Выйшлі згуртаванымі, магутнымі калонамі, але не для таго, каб разганяць нефармалаў, а каб сказаць сваё рашучае рабочае слова «Не!» далейшай эксплуатацыі, нястачы, бясправў, у якое іх загналі. Сем дзесяткаў гадоў іх закалыхвалі казкамі пра самае шчасьлівае жыцьцё, пра гаспадароў краіны, пра сьветлую будучыню і пхалі ім у рот пусты смактунок. Так, пусты смактунок. Цяпер, пасьля небывалага дасюль падвышэньня цэнаў, яшчэ больш горкі. І гэтая горыч стала апошняю кропляю. Цярплівасьць, пакорлівасьць скончыліся. Веснавой паводкаю выбухнула хваля забастовак.

А што ж начальства? Яно ж заўжды любіла пакрасамоўнічаць пра свае клопаты аб народзе, аб людзях працы. Можна толькі зьдзіўляцца, як выжыў гэты народ пры такіх «клопатах». І на гэты раз зноў быў ужыты стары, выпрабаваны манеўр: угаворы, абяцанкі-цацанкі, крывадушнае закалыхваньне людзей. Ды людзі ўжо ня тыя, што раней — яны навучыліся адрозьніваць зерне ад мякіны. Яны ўжо ня хочуць больш абяцанак наздольных, збанкрутаваных і крывадушных дзяржпартбюракратаў. Яны патрабуюць адстаўкі іх, сыйсьця з дарогі, уступіць месца тым, хто здолее вывесьці Беларусь з нетраў развалу, хаосу, несправядлівасьці і ўціску, у якія завялі народ уладу маючыя і іхняя партыя.

Нібы рэкі ў мора, уліваюцца калоны рабочых беларускае сталіцы на плошчу перад Домам ураду, запаўняюць усю яе прастору. У павевах веснавога ветру трапечуць палотнішчы бел-чырвона-белых сьцягоў. Выступаюць прамоўцы — прадстаўнікі страйкавых камітэтаў заводаў і фабрык, рабочыя, інжынеры, народныя дэпутаты, прадстаўнікі палітычных партый і грамадзкіх арганізацыяў, ветэраны вайны і працы. У кожнага ёсьць што сказаць. Хоць часам не ў склад, не ў лад. Што ж зробіш — эмоцыі. А як утаймаваць іх, калі набалела, калі горыч сваіх і чужых бедаў перапаўняе душу. Хіба магла спакойна гаварыць жанчына — народны дэпутат раённага Савета пра тое, што вайскоўцы неравозяць па начах атрутнахімічныя і выбуховыя грузы каля жылых дамоў у Шабанах? Хіба мог спакойна гаварыць адзін з прамоўцаў, калі паведамляў, як высакапастаўлены кіраўнік абазваў народ на плошчы абразьлівым словам?

З магутных дынамікаў гучаць усё новыя і новыя выступленьні, паведамленьні пра падыход новых калонаў з менскіх прадпрыемстваў. Гэтыя паведамленьні сустракаюцца воплескамі. Не, гэта ўжо ня тыя людзі, якімі яны былі год-два назад. Цяпер няхай ня думае нехта, што варта рабочаму падкінуць некалькі «драўляных» рублёў, заткнуць яму рот кавалкам эрзац-каўбасы і ён будзе маўчаць, будзе задаволены. Цяпер рабочы чалавек разумее, што такое свабода, дэмакратыя, яго ўласная чалавечая годнасьць, і ён будзе дамагацца іх. Гэта ўжо ня проста безаблічная «трудящиеся» і яшчэ больш безлічнае «население», як звыкла зваць усіх нас дзяржпартбюракратыя. Гэта ўжо народ, які гуртуецца, хоць і марудна, зь вялікім спазьненьнем, у маналітную еднасьць.



*Фота Ул. Пучынскага*

Натальля АРСЕНЬНЕВА

Беларусь!
Наша маці-краіна!
Ты з нас моцных зрабіла людзей.
Не загінулі мы і ня зьгінем,
пакуль Ты нас наперад вядзеш!
Пастаім за Цябе, як асілкі,
нашы сэрцы палаюць агнём,
дружна, мужна
за ўсё Твой расьцвілы
супраць Чорнае Моцы мы йдзём.
Не шкада нам жыцьця маладога,
не шкада нам гарачай крыві,
абы толькі праменнай дарогай
крочыў горда народ наш жывы!
Прысягаем
Табе мы сягоньня,
што пакуль хоць адзін з нас
жыве,—
нашай слаўнай Крывіцкай
Пагоні
мы ня зганьбім,
мы ўславім яе!

## Беларуская каталіцкая грамада

Летась у чэрвені ў Менску быў створаны Арганізацыйны камітэт Беларускае каталіцкае грамады. Тады ж ён выдаў адозву, у якой выкладаліся мэты і задачы аб'яднаньня: «Нас павінна аб'ядноўваць ідэя Адраджэньня Бацькаўшчыны, нас павінна аб'ядноўваць беларуская мова, мова нашых продкаў, мова Полацкай Дзяржавы і Вялікага княства Літоўскага, мова вялікіх Альгерда і Вітаўта, Скарыны і Купалы. Мы можам належаць да розных канфесій, але нас лучыць адзін Бог, адзіная Беларусь. Мы сёньня выказваем сваю волю садзейнічаць адраджэньню беларускага Касьцёла, духоўнасьці нашага народа, яго́най гістарычнай памяці. Ідэю адраджэньня беларускага Касьцёла будзе зьдзяйсьняць арганізацыя беларускіх каталікоў — Беларуская каталіцкая грамада.

Беларуская каталіцкая грамада стварыецца беларускімі каталікамі, якія падтрымліваюць ідэю беларусізацыі духоўнага жыцьця ў рэспубліцы, вяртаньня беларускага Касьцёла да нацыянальных вытокаў, адналення ў храмах роднай беларускай мовы, выхаваньня ў народа беларускага патрыятызму, развіцьця нацыянальнай культуры і мовы».

За час сваёй дзейнасьці Арганізацыйны камітэт правёў работу па падрыхтоўцы да свайго ўстаноўчага сойму. Былі распрацаваны праекты статутных і праграмных дакументаў, выдадзены першы нумар бюлетэня «Беларуская сьвятыня».

13 красавіка адбыўся ўстаноўчы сойм Беларускае каталіцкае грамады, у працы якога удзельнічала больш як 100 чалавек. Прысутнічалі прадстаўнікі іншых грамадзкіх і палітычных арганізацый. Сойм прыняў статут БКГ, ухвалы і зьвароты, праграмныя палажэньні. Выбрана Рада Беларускае каталіцкае грамады. Старшынёю яе стаў мастак Фэлікс Янушкевіч, намесьнікамі — выкладчык Менскага педагагічнага інстытуту Лявон Акаловіч, дырэктар музея Максіма Багдановіча Алесь Бяляцкі і мастак Мікола Купава.

Кар. «Беларускай крыніцы».

## Асацыяцыя хрысьціянскіх медыкаў

У сакавіку сёлетняга года ў Менску адбылася ўстаноўчая канферэнцыя Беларускай хрысьціянскай медыцынскай асацыяцыі. У прынятых ёю дакументах сьцвярджаецца, што асацыяцыя, як грамадзкая дабрачынная арганізацыя адкрыта для ўсіх хрысьціянскіх медыкаў — праваслаўных, каталікоў, пратэстантаў. Яна ставіць сваёй мэтаю дапамагаць усім людзям, якіх напаткала бяда, незалежна ад іх нацыянальнасьці і веравызнаньня ў адпаведнасьці з хрысьціянскай мараллю.

Беларуская хрысьціянская медыцынская асацыяцыя мае на мэце апрача непасрэднай дапамогі існуючым медычным установам будаваць і свае палiклінікі, бальніцы, дамы для састарэлых людзей. Прадугледжваецца наладжваньне кантактаў з гэткімі самымі зарубежнымі арганізацыямі.

На ўстаноўчай канферэнцыі выбрана Рада БХМА з 11 чалавек. Старшынёй асацыяцыі стаў лекар з Бярэсьця Мікалай Тарчыла.

Кар. «Беларускай крыніцы».

© PDF: Kamunikat.org 2018
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

# З гісторыі экуменізму

(Працяг з 3-й стар.)

У 1938 годзе быў створаны падрыхтоўчы камітэт па аб'яднаньні разрозьненых хрысьціянскіх цэркваў у адзіную Сусьветную Раду Цэркваў, а ў 1948 годзе ў Амстэрдаме адбылася асамблея, якая абвясьціла пра стварэньне СРЦ. У яе ўвайшлі 147 хрысьціянскіх цэркваў і арганізацый. У 1979 годзе членамі СРЦ было ўжо звыш 290 хрысьціянскіх аб'яднанняў. Туды ўвайшлі і шэсьць цэркваў, што дзейнічалі ў Савецкім Саюзе: Руская Праваслаўная Царква, Грузінская Праваслаўная Царква, Армянская Царква, Лютаранская Царква Латвіі і Эстоніі, Саюз эвангельскіх хрысьціян-баптыстаў.

Кіруючым органам экуменічнага руху даводзіцца мець справу з разнастайнымі хрысьціянскімі аб'яднаньнямі і, перш за ўсё, з інтэграцыяй на ўзроўні «міжнароднага канфэсіяналізму» і «міжканфэсіянальнымі аб'яднаньнямі» ў нацыянальных маштабах аднае краіны.

Да хрысьціянскіх аб'яднаньняў першага ўзроўню належаць такія міжнародныя пратэстанцкія аб'яднаньні, як Лютаранская сусьветная федэрацыя, Метадысцкая сусьветная Рада, Прасьвітарыянскі сусьветны альянс, Баптысцкі сусьветны альянс, а таксама пананглікансkія (ламбецкія) канферэнцыі на сусьветнай аснове.

Гэтыя аб'яднаньні супрацоўнічаюць з Сусьветнаю Радаю Цэркваў. Многія іхнія дзеячы зьяўляюцца адначасна і кіраўнікамі СРЦ. Так, былы прэзідэнт Лютаранскае сусьветнае федэрацыі Ф. Фрай быў і старшынёю Цэнтральнага камітэту СРЦ. Сусьветная Рада Цэркваў супрацоўнічае з рэлігійнымі экуменічнымі арганізацыямі накшталт Канферэнцыі цэркваў. Акрамя таго, СРЦ падтрымлівае адносіны з «галіновымі» міжнароднымі хрысьціянскімі аб'яднаньнямі тыпу Сусьветнай студэнцкай хрысьціянскай федэрацыі.

Экуменічны рух неаднолькава разьвіты ў розных краінах. У многіх зь іх дасягнута поўнае або частковае аб'яднаньне асобных канфэсій. За перыяд з 1910 па 1960 гг. адбылося 40 такіх аб'яднаньняў. У 1925 годзе у выніку зьліцьця Прасьвітарыянскае, Метадысцкае і Кангрэгацыяніісцкае цэркваў у Канадзе ўзьнікла Аб'яднаная царква Канады. У 1929 годзе Царква Шатландыі аб'ядналася з Адзінай свабоднай царквою Шатландыі, а ў 1931 годзе аб'ядналіся ўсе метадысцкія цэрквы Англіі.

Зразумела, ня ўсё гладка і без праблем у экуменічным руху, тут ёсьць featured рознага роду цяжкасьці. Так, на пасяджэньні ЦК СРЦ у Адыс-Абебе ў 1971 годзе мітрапаліт Георгі (Хорд) падвергнуў крытыцы хрысьціянства як выключную зьяву. Гэты тэолаг памылкова сьцвярджаў у сваім выступленьні раўнапраўнасьць усіх рэлігійных вучэньняў. Мітрапаліт зрабіў неабгрунтаваны вывад: паводле ягонай канцэпцыі Бог адзіны, але па-рознаму праяўляецца ў розных рэлігіях. Ідэі мітрапаліта Георгія не атрымалі ўхваненьня і не былі прыняты экуменічным рухам з-за іх суперэчнасьці вучэньню Ісуса Хрыста.

Царкоўны падзел застаецца фактам, і каб пераадолець яго, экуменічны рух спрабуе ўніфікаваць шматлікія тлумачэньні сутнасьці і задач усеагульнай (кафалічнай) Царквы. Але, на жаль, сутнасьць гэтае царквы па-рознаму тлумачыцца прадстаўнікамі пратэстантызму і праваслаўя. Яшчэ на эдынбуржскай канферэнцыі «Веры і парадку» праваслаўны багаслоў С. Булгакаў падвергнуў крытыцы пратэстанцкі прынцып «стварэньня» Царквы Хрыстом і супрацьпаставіў яму праваслаўны прынцып «вечнасьці» Царквы. Паводле гэтага прынцыпу Царква існавала і да Хрыста: у раі, у старазапаветны час. Другі багаслоў Г. Фралоўскі вобразна сфармуляваў сваё ўяўленьне пра Царкву наступным чынам: «Царква — гэта жывы вобраз вечнасьці ў часе».

У крэда Сусьветнае Рады Цэркваў уваходзіць трынітарызм (багаслоўскае вучэньне аб прызнаньні боскае сутнасьці за ўсімі трыма асобамі Бога). Экуменісты прапануюць адзінства Царквы выводзіць менавіта з трынітарнай еднасьці, якая мае на ўвазе і пазачасовае адзінства Народу Боскага. Гэтая зразумелая боская еднасьць праз Хрыста, на думку экуменістаў, зьнітоўвае ў адно членаў Царквы, даючы ім мажлівасьць падзяляць рэлігійную сувязь з Богам Айцом у Святым Духу. Адсюль робіцца высновa, што для вернікаў, для Народу Боскага жыць у разрозьненасьці, дапускаць пранікненьне рознагалосьсяў у Царкву азначае ўвайсьці ў супярэчнасьць з уласнаю сутнасьцю.

Падзеленая Царква — гэта жахліва, страшэнна,— кажуць экуменісты,— таму што яна адмаўляе сваю сувязь з Хрыстом (а ці ж падзелены Хрыстос?). Вядомы пратэстанцкі тэолаг К. Барт гаворыць, што падзел Царквы «анталагічна зусім немагчымы; ён магчымы толькі ў тым выпадку, калі магчымы грэх».

Кожны чалавек, які усёй сваёю сутнасьцю супраць аб'яднаньня розных хрысьціянскіх канфэсій у Адзіную Царкву, зьяўляецца праціўнікам Госпада. Як вядома, Царква ёсьць цела Хрыстова, і таму, калі хто за захаваньне падзелу, дык ён імкнецца падзяліць на часткі самога Хрыста.

Са Сьвятога Эвангельля мы бачым, што Госпад наш незадоўга да адданьня Яго суду, моліцца Айцу Нябеснаму, кажучы: «Дык жа няхай будзе ўсё адзінае, як Ты, Ойча, у Мне і я ў Табе, дык і яны няхай будуць у нас адзіна,— і няхай паверыць сьвет, што Ты паслаў Мяне» (Іаан, раздз. 17, с. 21).

Такім чынам, з гэтае малітвы Госпада нашага бачна, што Ён бачыць еднасьць Народу Боскага як аснову пасьпяховай эвангелізацыі сьвету, а значыць і прывядзеньне нашага жыцьця да непараўнальна большага парадку і прагрэсу маралі ва ўсіх сьферах.

Пятро ГУШЧА,
тэолаг.

Уладзімер ПЕЦЮКЕВІЧ

## НАВОШТА?

Я аднаго не разумею,
Бо немагчыма зразумець:
Навошта мары і надзеі,
Калі за імі не ляцець?

Нашто было трывожыць
цішу —
Нам незалежнасьць
абвяшчаць?
Калі, як пад мятлою мышы,
Сядзім пад грозным:
Не пішчаць!

Ну што з таго? Дакляравалі,
Паперку выдалі ў народ:
Чытайце, дурні, вы чыталі
Падобную ўжо колькі год!

І канстытуцыю абновім —
Чарговы лозунг з-пад пяра...
З Саюза выйсьці?
Ну, шаноўны,
А як жа быць нам без цара?

А хто ж тады над намі будзе
Рабіць жывы эксперымент?
Хто скажа: беларусы —
людзі,
Маўчаць, калі гамоніць
сьвет?!

Маўчым, бо слоў сваіх не
маем:
Згубілі ў моры слоў чужых —
І зорка злая нас карае,
І сьвечка матчына дрыжыць!

Маўчым — ні крыўды, ні
агіды,—
Як рыба ў тручанай вадзе,
Ямо нітраты і нукліды —
Курган ахвяраў наш расьце!

# Сябрына польскае культуры

У гэты сакавіцкі вечар камінная зала Дома літаратара ў Менску была запоўнена цалкам. Сюды прыйшлі навукоўцы, літаратары, журналісты, выкладчыкі вышэйшых навучальных установ, прадстаўнікі іншых прафесій. Прысутнічаў генеральны консул Польскай Рэспублікі Тадэвуш Мысьлік. Размова ішла пра стварэньне Сябрыны польскае культуры.

З уступным словам выступіў народны пісьменнік Беларусі Янка Брыль. Рэферат пра беларуска-польскія культурныя сувязі зрабіў доктар філалагічных навук Адам Мальдзіс. «Ад часоў Скарыны, — сказаў ён,— выразна пачынаецца тое беларуска-польскае грамадзка-палітычнае, гаспадарчае і культурнае ўзаемадзеяньне, якое плённа, хоць і не без супярэчнасьцяў, разьвівалася на працягу стагодзьдзяў. Яно гартавалася ў полымі супольнай барацьбы «за вашу і нашу вольнасьць», супраць адных і тых самых непрыяцеляў — сваіх і вонкавых». Адам Мальдзіс прыгадаў пра ўзьлёты і падзеньні, крызісы ў разьвіцці беларуска-польскіх культурных сувязяў на працягу апошніх стагодзьдзяў, у тым ліку і ў час знаходжаньня Заходняе Беларусі ў складзе Польскае дзяржавы. Асабліва складаны і супярэчлівы перыяд у беларуска-польскіх узаемаадносінах настаў у часы брэжнеўскага застою, а свайго апагею дасягнуў сёньня.

Таму найпершая задача ствараемай Сябрыны польскае культуры — пошукі шляхоў у выхадзе зь сёньняшняга крызісу ў беларуска-польскіх узаемаадносінах.

Што датычыцца бліжэйшых юбілеяў, дык найперш тут трэба прыгадаць двухсотгодзьдзе Канстытуцыі 3 мая, першае канстытуцыі, якая дзейнічала на тэрыторыі Беларусі і ў распрацоўцы якое актыўна ўдзельнічалі многія нашы землякі. Затым 150-годзьдзе з дня нараджэньня нашае зямлячкі Элізы Ажэшка і 250-годзьдзе класіка польскае літаратуры Францішка Карпінскага, пахаванага на беларускай зямлі, на Пружаншчыне. Трэба таксама падумаць пра арганізацыю турыстычных маршрутаў «Шляхамі Ажэшка, Міцкевіча і Касьцюшкі» ў Беларусі і «Памятныя беларускія мясьціны ў Польшчы».

Сваімі думкамі на ўстаноўчым сходзе Сябрыны падзяліліся генеральны консул Тадэвуш Мысьлік, пісьменьнікі доктар філалагічных навук Алег Лойка, Уладзімір Казьбярук, навукоўцы Язэп Янушкевіч, Мая Яніцкая, выдавец польскамоўнага часопіса з Вільні «З-над Віліі», дэпутат Вярхоўнага Савета Літоўскай Рэспублікі Чэслаў Акінчыц, намеснік старшыні Саюза палякоў на Беларусі Рышард Кацынэль і іншыя.

На сходзе быў абраны арганізацыйны камітэт, старшынёю якога стаў Янка Брыль, намеснікамі Алег Лойка і мовазнаўца Вячаслаў Вярэніч.

Кар. «Беларускай крыніцы».

БЕЛАРУСКІ НАРОДНЫ КАЛЯНДАР

# *Травень*

*Май — жывёлу ў поле пхай. Май зямлю грэе, а сіверам вее. Май — каню сена дай, а сам на печ уцякай. У маі сьнег — на сухое лета.*

*Барыс і Глеб (2 ст.с.) сеюць хлеб.*

*Сей лён на Станіслава (8 н.с.) — вырасьце, як лава.*

*Веснавы Мікола (9 ст.с.) — сьвята канюхоў. Веснавы Мікола каня адкорміць. Прыпасай сена да Міколы — ня бойся зімы ніколі. Два Міколы — адзін з травою, другі з зімою.*

*11-га мокра — усё лета мокрае, а суха — усё лета сухое.*

*Прыйшлі Сідары (14 ст. с.) — прыйшлі і сіверы.*

*Прыйшоў Пахом (15 ст.с.)— запахла цяплом.*

*Ад Васіліска (22 ст.с.) — і салавей блізка.*

*Сей лён на Алену (22 н.с.) — будзе кашуля па калена.*

*Калі рой выйдзе перад Янам (24 ст.с.) — пчаляр будзе панам.*

*Магдалена (29 н.с.) зязюльку прысылае.*

*Ціхі ранак над плёсам...*



Беларуская крыніца
Палітычная, грамадзкая і літаратурная газэта.
Выдаўца Пятро ЄІЛКА.
В. а. галоўнага рэдактара Алесь ТРАЯНОЎСКІ.

Адрас для карэспандэнцыі: 220065. г. Менск-65, абан. скрынка 24.

Аўтары адказваюць за дакладнасьць фактаў, цытат, лічбаў, дат, асабістых імёнаў, геаграфічных назваў і іншай інфармацыі, што паведамляецца ў матэрыялах. Рэдакцыя можа друкаваць матэрыялы, не падзяляючы пункту гледжаньня аўтара. Дасланыя матэрыялы не рэцэнзуюцца і не высылаюцца назад аўтарам.

*Паліграфічная фабрыка «Чырвоная зорка» МПВА імя Якуба Коласа, г. Менск.*

Наклад 9 тысяч паасобнікаў.

Зак. 2414.


© PDF: Kamunikat.org 2018
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

